

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЖНІВЕНЬ 19 ЧАЦВЕР

№ 155 (590)

Цана 10 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### МИНСК — ЦЕНТР АСТРОЛОГИИ?

Тамара МАРКИНА.

В Министерстве юстиции Республики Беларусь зарегистрирована Международная авестийская ассоциация. Ее президентом стал известный астролог Павел Глоба. Так как президент — петербуржец, а не житель нашего города и ныне пребывает на берегах Невы, о целях создания этой международной ассоциации рассказывает астролог «Добрага вечара» Александр Медведев.

— Главная цель создания ассоциации, — сказал он, — изучение, исследование и распространение авестийской астрологии. Считается, что Беларусь является отправной точкой начала важнейших реформ мирового сообщества, важнейшим звеном между Западом и Востоком. Ассоциация была создана на базе российского отделения. Аналогичные будут открыты на Украине, в Молдове, вероятно, в Чехии, Румынии, Болгарии, Германии, Индии.

### НЯМЕЦКІЯ «ІКАРУСЫ» Ў СТАЛІЦЫ

Іван КАХНОВІЧ.

**НЕКАЛЬКІ непрывычна для нас размалёваныя аўтобусы з'явіліся ў апошні час на гарадскіх маршрутах. Мяркуючы па надпісах, з Германіі. Але, каб удакладніць, што, як і адкуль, мы звярнуліся ў ВА «Мінскпасажыраўтатранс». Высветлілася, што сапраўды сюды паступілі аўтобусы з-за мяжы. Гэтыя «Ікарусы» не новыя, а пасля рамонту. Чаму купляюцца былыя ва ўжыванні машыны, думаецца, не трэба доўга тлумачыць. Бо за новы «Ікарус» «просяць» 100 тысяч долараў, а гэтыя каштуюць па 24 тысячы, але марак. Розніца — адчувальная. Дарэчы, за гэты год ні аднаго новага аўтобуса не закуплена. А тыя ж, што ёсць, усё больш старэюць, а значыць, часцей выходзяць са строю. А гэта — новыя праблемы.**

**Хадзілі чуткі, што на купленых машынах устаноўлены «манаўскія» рухавікі, аднак, як нам растлумачылі, гэта не так. У дадзеных «Ікарусаў», калі яны эксплуатаваліся ў Германіі, сапраўды было «не роднае сэрца». Аднак пры продажы, калі аўтобусы рамантуюць, на іх зноў ставяць «ікарусаўскі» рухавік.**

**Застаецца сказаць, што па горадзе ўжо курсіруюць 18 такіх машын, а недзе ў суботу чакаецца прыбыццё яшчэ 7–8. Дарэчы, кантракт быў заключаны на 26 аўтобусаў, цяпер яго прадоўжылі. Але зноў жа пытанне — валюта. На гэтыя машыны Мінгарвыканкам яе знайшоў, але далей, напэўна, патрэбна будзе дапамога ўрада рэспублікі.**

### «НУЖНО ЖИТЬ НАУЧИТЬСЯ» —

**так называется Всебелорусская конференция, посвященная оздоровительной системе и идее независимой жизни в природе Учителя Порфирия Иванова. Она пройдет в Белгосуниверситете 21 августа в актовом зале с 11.30 (ул. К.Маркса, 31). Приглашаются все желающие. Посетители увидят малоизвестные документальные тематические фильмы, слайды, фотографии, услышат сообщения от людей, которые приехали со всех концов Содружества, получат 12 советов Учителя «Детки». Вход свободный.**

Вильям ОСТРИНСКИЙ.

### ГЛАЗА «РАЗБЕГАЮТСЯ», А ЦЕНЫ «КУСАЮТСЯ»

Елена КАЛОША.

«ЖИГУЛИ», «Москвич», «Форд» — «голубая» мечта многих. Но это только кажется, что машина — удовольствие посидеть за рулем...

Нет, пожалуй, в Минске автолюбителя, не побывавшего на стадионе «Локомотив». И вовсе не спортивные состязания притягивают людей. Да и когда здесь соревновались по выходным, скажем, мотоболисты? Сегодня здесь «правит бал» рынок. В данном случае — автомобильный.

Обилие машин — первое, что бросается в глаза здесь, второе — цены. «Кусаются» они не хуже самого злого бультерьера.

Впрочем, судите сами. Вот сколько «просили» в минувшую субботу за некоторые запчасти:

шланги тормозные «ВАЗ-2109» — 10 тыс. рублей;
полуось «ВАЗ-2101» — 45 тыс. руб.;
цилиндр тормозной «ВАЗ-2105» — 2,5 тыс. руб.;
кольца поршневые — 5 тыс. руб.;
барабан тормозной «ВАЗ-2101» — 15 долларов или 15 тыс. российских рублей;
колодки тормозные задние — 8 тыс. руб.;
масло «жигулевское» (2,5 л) — 2,8 тыс. руб.

Цены, как сами видите, приличные. Но что-то будет завтра?

## МЯСЦОВЫ ЧАС

# 730 ДЗЁН БЕЗ РЭВАЛЮЦЫЙ

Максім ГРЭК, «ДВ».

**ДАЛІБОГ, цікава корпацца ў памяці, успамінаючы мінулае. Успамінаючы, да того ж, не самі падзеі мінулага, а свае адчуванні, перажыванні, ацэнкі.**

**Жнівень 91-га года, сведчу з гарантыяй, выдаўся неблагім. І не таму, што сонца так напякло галаву, што дагэтуль не магу на яго забыцца. Проста памятаю, што, нацягваючы шторанку кірзавыя салдацкія боты і паглядаючы праз акно казармы на заліты сонцам пляц, надзвычай шкадаваў самога сябе, вымушанага гібець па такім надвор'і на гэтых нікому не патрэбных зборах.**

Але той жнівень запомніўся не толькі шкадаваннем аб страчаных магчымасцях прыдатнага адпачынку, але і псіхозам рэвалюцыі, які ахапіў тады кожнага з нас. Нехта поўніўся шчасцем і злараднасцю, адкрыта паціраючы рукі, якія надта свярбелі ад жадання пастраляць праклятых дэмакратаў, а нехта моўчкі пазіраў з-пад ілба, пракручваючы ў галаве магчымае развіццё далейшага свайго лёсу: ці чакаць, пакуль на Калыму адвязуць, ці ў лес падавацца?!

Памятаю, як ненавідзеў нампаліта, які ў першы дзень феерыі заляцеў у ленінскі пакой і з задавальненнем садраў са стэнда фотку Гарбачова, вокаімгненна разадраўшы яе на дробненькія шматкі. І памятаю, як кпілі мы з яго праз некалькі дзён: бедалага, пачуўшы пра перамогу Ельцына і пабачыўшы Міхалсяргейча ў спартыўнай куртачцы на трапе самалёта ў Маскве, так разнерваваўся, так перапалохаўся, што пяць дзён піў без перапынку, і толькі магутнае здароўе абібока не дазволіла яму загнуцца канчаткова.

А наогул падзеі жніўня 91-га ў нашай памяці адбіліся, скажам шчыра, выключна на эмацыянальным узроўні. Тры дні мы паперажывалі за лёс краіны, лёс дэмакратыі, ды і за свой лёс. Седзячы ля тэле і ўглядаючыся ў страсныя рэпартажы з плошчы ля Белага дома, слухаючы Ельцына ды Растраповіча з аўтаматам на тонкай шыі, мы напаўняліся тымі ж пачуццямі, якімі жыла плошча, натоўп. Статкавы псіхоз, а потым статкавая эйфарыя захаплялі нас ушчэнт, і потым, схамянуўшыся і крыху супакоіўшыся, мы самі паверылі сваім адчуванням і самі для сябе цвёрда вырашылі — за тры дні мы перажылі рэвалюцыю.

Дарэчы, і зараз той-сёй, асабліва ў Маскве, схільны лічыць падзеі жніўня мяккай рэвалюцыяй, якая каштавала тры чалавечыя жыцці і безліч гарэлкі і бутэрбродаў для абаронцаў Белага дому.

Я не буду ні аспрэчваць гэта, ні пераконваць у іншым. Я сапраўды паверу расіянам, што ў іх у нейкай ступені адбылася рэвалюцыя, у выніку якой узнікла класічнае двухуладдзе.

Але для мяне, беларуса, з вышыні двух гадоў надта ж добра відаць, што ніякай рэвалюцыі ў маёй краіне не адбылося.

Рэвалюцыя ў першую чаргу вымагае змены ўлады. Рэвалюцыя вымагае, каб да руля дзяржавы сталі альбо новыя людзі, альбо нават старыя, якія вырашылі ўзяць новы кірунак.

Замена Дзямянцея Шушкевічам, якім бы дэмакратам ні быў апошні, на рэвалюцыю не цягне аніяк.

Развал імперыі і стварэнне новых маладых дзяржаў таксама па сутнасці не сталі вынікам правалу знакамітага путчу, бо працэс распаду імперыі непазбежны і гістарычна абумоўлены. Янаеў і «компані» маглі хіба крыху затармазіць гэты працэс, запаволіць яго, не больш. Яны маглі, вядома, нарабіць нямала бяды, праліць нямала крыві, але сапраўдную гісторыю нават з чырвоным сцягам перціся бязглузда.

Больш таго, на маё глыбокае перакананне, спробы навязаць падзеям таго жніўня ў Маскве імідж рэвалюцыі з'яўляюцца свядомай спробай адцягнуць увагу народа ад спраў сённяшніх.

А ў маёй дзяржаве тым часам ля руля краіны застаюцца камуністы, якія кіруюць маёй краінай выключна таталітарнымі і камуністычнымі метадамі.

У іх не атрымліваецца, яны не ведаюць, што рабіць далей, у іх штодзённа дзе-небудзь нешта рвецца — то фінансавы крызіс, то палiўны, то цукровы, то алейны, — але дырэктывы з ЦК не паступаюць, і «кіраўнікі» ў сполаху лётаюць у Маскву (мабыць, па старой звычцы) і моляць літасці.

Маёй дзяржаве сёння горш, чым у жніўні 91-га, бо тады яна была моцнай, у яе былі перспектывы, а ў нас былі спадзяванні. Тады мы марылі аб новым Вярхоўным Савеце, аб новым кабінеце міністраў. Тады мы планавалі тыя пераўтварэнні, якія вымагае эканоміка нашай дзяржавы, і шчыра верылі, што ў хуткім часе іх здзейснім. А сёння мы бачым, што яны, нашы кіраўнікі, бездапаможныя ў справе кіравання, затое надзвычай жвавыя ў справе рабавання, у справе захавання сваёй улады, у справе здрады.

Так, урэшце, давайце скажам адзін аднаму ў вочы праўду — заклікі да знішчэння дзяржаўнасці, заявачкі пра, бачце, эканамічную невыгоднасць існавання краіны(!) — гэта ж звычайная здрада! Калі вы не можаце, спадар, для прыкладу, Лукашэнка, кіраваць краінай і не бачыце іншага выйсця, акрамя як знішчыць краіну — дык адыдзіце ўбок! Не перашкаджайце тым, хто ведае, як рабіць і што рабіць!

Жнівень 91-га не прынёс нам рэвалюцыі, але тым не менш ён адыграў вялікую ролю. Ён разняволіў нас, ён скінуў з ментальнасці народа ланцугі боязі, страху і сляпой падпарадкаванасці. Жнівень зрабіў рэвалюцыю ў свядомасці, бо людзі пабачылі, што баяцца няма чаго, людзі адчулі сябе вольнымі і значнымі ў гістарычным кантэксце.

Людзі не могуць больш жыць па-старому. Кіраўнікі не могуць больш правіць. І ёсць ідэя, якая ўжо прыжылася ў свядомасці народа, што ніхто нам не дапаможа, акрамя нас саміх, у вырашэнні любых нашых эканамічных і палітычных праблем. І ёсць, урэшце, цэлая сарганізаваная плынь партый і арганізацый рознага ідэалагічнага кірунку, якія яднае адно — ідэя рэальнай незалежнасці, ідэя сваёй дзяржавы.

І я, па праўдзе, толькі дзіўлюся, як мы ў гэткай рэвалюцыйнай сітуацыі дагэтуль абышліся без рэвалюцыі...

## КАЛЯНДАР

*Чацвер, 19 жніўня.*

**СОНЦА — 5.53/20.32.**
**Даўжыня дня — 14.39.**
**МЕСЯЦ — маладзік 17 жніўня,**
**усход 8.19/ захад 20.37.**

**ІМЯНІНЫ**

**Сёння:**
**Праваслаўныя — ПРААБРАЖЭННЕ ГАСПОДНЯЕ (Спас).**
**Каталіцкія — Баляслава, Яна.**

**Заўтра:**
**Праваслаўныя — Дамеція, Мітрафана, Пімена.**
**Каталіцкія — Бэрнарда, Сабеслава.**

**НАРОДНЫ КАЛЯНДАР**

**Сёння — Спас, старажытнае земляробчае свята часу выспявання садавіны і агародніны. Царква прыстасавала да гэтага дня асвячэнне садавіны, пасля чаго дазвалялася ўжо есці яблыкі, грушы, слівы. Асвячалі таксама мёд, каласкі новага ўраджаю.**

**Надвор'е становіцца халаднейшым.**



## ТЭМА ДНЯ

# ПАЛІЎНЫ КРЫЗІС: ЧАС ПІК

Тамара МАРКІНА, «ДВ».

**«Добры вечар» ужо пісаў аб закрыцці некаторых гарадскіх аўтобусных маршрутаў. Гэта, як паведамілі ў вытворчым аб'яднанні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, выклікана перабоямі з пастаўкай бензіну. І ідуць нашы транспартнікі па шляху найменшых страт: маршруты закрываюцца часова. І толькі тыя, якія дубліруюцца іншымі відамі транспарту. Якім чынам гарадскі аўтатранспарт вырашае паліўныя праблемы, давайце запытаем у галоўнага інжынера ВА транспарту і сувязі Мінгарвыканкама Генадзя Георгіевіча Ганчарыка.**

***— Генадзь Георгіевіч, нашы чытачы турбуюцца, што ў сувязі са скарачэннем паставак бензіну на гарадскіх транспартных лініях стала менш аўтобусаў, тралейбусаў... Вось і аўтобусныя маршруты закрываюцца.***

— Што датычыцца электратранспарту — тралейбусаў і трамваяў — іх на лініях менш не стала. Наадварот. Мы купляем новыя тралейбусы ў Расіі. Вось і здвоеныя — на нашых вуліцах не навіна. У гэтым годзе атрымалі некалькі дзесяткаў аўтобусаў маркі «Ікарус» з Германіі. Праўда, былых у карыстанні. Дарэчы, пакуль што аўтобусы, якія працуюць на дызельным паліве, задзейнічаны без перабояў. Іх мы, у прыватнасці, выкарыстоўваем на маршрутах у бок Малінаўкі, Кунцаўшчыны, Сухарава.

У мінулую суботу значны перабой здарыўся з міжгароднімі пасажырскімі перавозкамі. Мінчане, набыўшы білеты да Слуцка, іншых гарадоў рэспублікі, не змаглі выехаць са сталіцы. А ўся справа ў тым, што аўтобусы напярэдадні не прыйшлі са Слуцка і іншых месц прызначэння, дзе яны павінны былі запраўляцца бензінам, — не было паліва. У нас, на нашых аўтазапраўках, бензін могуць набыць толькі «хуткія дапамогі», аўтамабілі аварыйных службаў, УУС. І працуе тых запраўак усяго 2-3 на горад. Ды і пастаўляюць вялікіх запасаў. Тым не менш самым «хворым месцам» застаюцца пастаўкі гораду бензіну. Мы накіравалі ліст на імя намесніка старшыні Саўміна, у якім апісалі сітуацыю з забеспячэннем бензінам аўтазапраўкі ў адзін з нядаўніх дзён. У той час, калі АЗ ВА «Мінскаўтазапраўка» дзённая мінімальная патрэба бензіну А-76 складае 70 тон, АІ-92 і -93 — 40 тон, то ў гэты дзень «Мінскаўтазапраўка» атрымала ўсяго 20 т бензіну А-76 і ні грама АІ-92 і -93. Нехватка бензіну стала вынікам скарачэння прыгарадных і гарадскіх маршрутаў, павелічэння інтэрвалаў руху аўтобусаў не ў гадзіну пік — у найбольш гарачыя гадзіны імкнёмся неяк выходзіць з прыкрых сітуацый, але ўсё гэта часова...

нават на гэтыя лічаныя аўтазаправачныя станцыі паліва з перабоямі. Новыя праблемы ў гарадскога транспарту з'явіліся са скарачэннем паставак нашай рэспубліцы газавага паліва. Закрыліся 2 аўтазапраўкі, якія абслугоўвалі каля 3 тысяч аўтамабіляў (яны належаць у асноўным ВА «Мінскгандальаўтатранс»). Гэтаму аб'яднанню прыйшлося перайсці, па магчымасці, на дызельнае паліва, але і яго ў нас няма

З-за недахопу паліва цяжка працуюць ВА «Мінскпасажыраўтатранс», «Мінскгандальаўтатранс», «Мінскгрузаўтатранс».

Гэта адмоўна адбіваецца не толькі на рабоце гарадскіх аўтобусаў, але і зрывае своечасовую дастаўку прадуктаў харчавання ў магазіны, бальніцы, дзіцячыя ўстановы, абслугоўванне будаўніцтва, домабудаўнічых і асфальтабетонных заводаў і камбінатаў.

Горад просіць дазволу ва ўрада атрымліваць па меры неабходнасці нафтапрадукты самавывазам на Наваполацкім і Мазырскім нафтаперапрацоўчых заводах, якія, дарэчы, працуюць у асноўным на расійскай нафце.

Але ж гэта часовы выхад. Нам патрэбны рашэнні на дзяржаўным узроўні, якія адкрыюць шлях да стабільнага, бесперабойнага паступлення аўтамабільнага паліва для патрэб горада. Таму зразумела трывога чытачоў «ДВ»: ці хутка стабілізуецца праца гарадскога аўтатранспарту? Адказ пакуль адзіны: усё залежыць ад своечасовых дзеянняў урада.

## АКТУАЛЬНО

# ГАЗ НА ИСХОДЕ. МАЗУТ КОНЧИЛСЯ

*И проблемы с тепло- и электроэнергией не решены до конца*

Елена ЛИТВИН, «ДВ».

КОГДА более-менее размеренный и устоявшийся распорядок жизни города, служб, а то и государства в целом вдруг нарушается «ЧП», действия и комментарии специалистов напоминают военные сводки.

Такую картину мне пришлось наблюдать и в отделе энергетики и топливных ресурсов Мингорисполкома, где заведующий В.Даценко отбивал непрерывные телефонные атаки директоров предприятий, молящих о помощи с газом: «Продержитесь, ну продержитесь еще два дня, пока ничего предпринять не можем!» И в кабинете генерального директора ПО «Минскэнерго» Ю.Никитина, который мрачно докладывал кому-то по пульту связи: «Я одержал победу, тракторный до конца недели «сдался». Но, считаю, это пиррова победа. Если станет и автозавод, платить за потребленный газ и электроэнергию будет нечем».

— И я нисколько не преувеличиваю, — продолжил он, повернувшись ко мне от пульта. — Не понимаю эйфории республиканской прессы, которая поспешила уведомить, что все, дескать, в порядке, договоренность с Россией об устойчивом газоснабжении достигнута. Не надо пока надевать розовые очки. Фактическое положение таково, что и сегодня мы сжигаем 93 тыс. кубометров газа в час при потребности 286 тыс. куб. м, т.е. всего лишь третью часть. Ряд станций вообще отключены.

Конечно, они работают и на мазуте. Но беда в том, что и мазута на станциях практически нет. Емкости заполнены менее, чем наполовину.

И для убедительности Юрий Михайлович, набрав нужную программу на компьютере, показал реальные запасы дефицитного топлива. Например, на ТЭЦ-4 в емкости осталось чуть больше 13 тыс. тонн мазута при вместимости 62 тыс. тонн. За сутки было сожжено 1300 тонн. Такое же положение на всех электростанциях республики. В результате ПО «Минскэнерго» доведен лимит по мощности ниже уровня выходного дня. Эта мера продиктовала следующий шаг: остановить всю промышленность, что повлечет за собой ущерб как и предприятиям, так и энергетической отрасли. Ведь плата за тепло- и электроэнергию для населения обходится гораздо ниже себестоимости. Фактическая стоимость 1 Гкал — 3944 рубля, с населения взимается лишь 810 руб., себестоимость 1 квт/час обходится в 17 руб. 30 коп., населению — 6 руб. 50 коп. И дотация осуществляется именно за счет более высоких тарифов для промышленных предприятий. Остановив промышленность, мы залезем в долговую яму. Так что не надо делать вид, что все благополучно. Хотя и повода для паники нет. Украина тоже должна была России триллион, но рассчиталась. Надо и нам как можно быстрее уплатить долги и начать получать газ и топливо в полном объеме.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# ПАДСТАЎ НЯМА, ВАЛЮТЫ ТАКСАМА. А МОЖА НААДВАРОТ?

Уласн. інф. «ДВ».

**Аб сучасным стане фінансавай, крэдытна-грашовай і валютнай палітыкі Беларусі ішла размова шэрагу прадстаўнікоў Нацыянальнага банка, Міністэрства фінансаў, Дзяржэканомплана рэспублікі з журналістамі.**

Пакуль што мы застаёмся ў рублёвай зоне, афіцыйна заявіў **намеснік старшыні Нацыянальнага банка Беларусі А.Д.САРОКІН,** таму размовы аб наданні разліковым білетам функцыі адзінага плацежнага сродку і тым больш аб увядзенні нацыянальнай валюты не маюць падстаў. Такі крок можа санкцыяніраваць толькі сесія Вярхоўнага Савета, а ніяк не сам Нацбанк. Аб контурах будучай рублёвай зоны, умовах уваходжання Беларусі ў яе будзе ісці размова на сустрэчах кіраўнікоў урадаў і банкаў краін, якія імкнуцца да такой інтэграцыі, а потым — кіраўнікоў дзяржаў. Сустрэчы будуць няпростымі...

Акрамя недахопу расійскай наяўнасці, галаўны боль банкіраў і фінансістаў — інфляцыя. Яна складае 30 працэнтаў у месяц (а запланаваная адназначная лічба). Наўрад ці ўрад здолее ўтрымаць яе сёлета ў запланаваных і ўзгодненых з МВФ і Расіяй межах. Хутчэй за ўсё, па асцярожных намёках прадстаўнікоў Мінфіна, інфляцыя будзе павялічвацца больш хуткімі тэмпамі. Бо расце дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Паводка прынесла страты ў 200 мільярдаў. Іх трэба будзе дадаць да ўжо існуючага дэфіцыту ў 0,5 трыльёна рублёў.

Інфляцыю падсцёгваюць неабгрунтавана выдаваемыя крэдытныя рэсурсы, невысокая таксама і ўліковая стаўка па іх (сёння яна складае «ўсяго» 170 працэнтаў). На нарадзе ў Саўміне вырашана дзяржаўныя крэдыты даць толькі Міністэрству хлебапрадуктаў і Мінсельгасхарчу: на закупку зерня і аплату ўборачных работ. Астатнім — шлях у камерцыйныя банкі.

Але пакуль курс разліковага білета падае, дэфіцыт бюджэту і ўзровень інфляцыі растуць, перспектывы разлікаў з Расіяй за энерганосьбіты самыя неакрэсленыя. І, акрамя агульнавядомых слоў і лічбаў, нічога не прагучала. Перспектывы ў крэдытна-фінансавай галіне змрочныя і неакрэсленыя, але абяцанняў з'есці свае капелюшы, якія даваў В.Герашчанка, з вуснаў фінансістаў не прагучала.

...Вось зноў створым рублёвую зону, тады і зажывём?

## К НОВОМУ УЧЕБНОМУ ГОДУ







БОЛЕЕ 7 тысяч учащихся сядут за парты новых школ, построенных в Минске к нынешнему году.

Особую заботу строители столицы и Госкомчернобыль проявили к детям переселенцев из Наровлянского, Чечерского, Брагинского и Ветковского районов. Для них в микрорайоне «Малиновка-3» построена прекрасная школа на 1.568 мест. А рядом завершается строительство межшкольного бассейна.

**НА СНИМКАХ: эти малыши будут учиться в новой средней школе № 208 в микрорайоне «Малиновка-3».**

**Бригадир трубоукладчиков Иван Кучук (справа) и рабочий Сергей Лещинский из ПМК-1 треста № 35 на благоустройстве территории бассейна.**

**Воспитатель детсада № 542 Татьяна Жихарева знакомит детей с новой школой, где они будут учиться.**

**Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.**

ПАРТРЭТ НА ФОНЕ РЭФОРМ

# «ПРАМЕНЬ». КАНАДСКІ ВАРЫЯНТ, ЦІ ВАЛЮТНЫЯ БОЦІКІ БЕЛАРУСІ

Тамара МАРКІНА.



Не будзе перабольшаннем сцвярджэнне, што кожны мінчанін мае сваё меркаванне пра абутак маркі «Прамень». Хто ўхваляе і ганяецца за прыгожанькімі басаножкамі гэтага аб'яднання, а хто наадварот: верне кірпаценькі носік у бок «MADE IN...». Што зробіш, як кажуць суседзі, «на вкус и цвет...» Тым не менш, «Прамень» — фірма сур'ёзная, са шматгадовым гандлёвым стажам. Як жывецца сёння тым, хто нас абувае? Вынесла наверх рынычная хваля каўчэг абутнікаў, альбо накрыла яго крылом беспрацоўя? Аб гэтым сёння чытачам «Добрага вечара» раскажа генеральны дырэктар вытворчага абутковага аб'яднання «Прамень» Вячаслаў Браніслававіч ВЕРНІКОЎСКІ.

**— Па дарозе да Вас, Вячаслаў Браніслававіч, мне прыйшоў на ўспамін даўні закід выкладчыка эканомікі: «У нашай краіне на кожнага жыхара шыюць па 4 пары чаравікаў, боцікаў, пантофляў. Вось толькі абутак той, як кажуць, не ў дугу: ці дрэнны вонкавы выгляд, ці несучасны, ці ўвогуле няякасны, ці не таго памеру. Так і застаецца большасць яго незапатрабаваным на складах...» Што тут казаць — меў ён рацыю, меў... Як вы лічыце, многае змянілася з таго часу, ці на «Прамені» і ў ранейшыя гады было ўсё няблага?**

— Што датычыцца абутку «Праменя», то з яго рэалізацыяй у асноўным не было праблем. У чорныя часы — 1976 годзе — вяртанне складала недзе 4 працэнты пашытага. Гэта, зразумела, не ўзнімала аб'яднанне ў вачах пакупнікоў. Абутнікаў лаялі. І не без падстаў. «Праменеўская» прадукцыя не надта карысталася попытам не з-за ненадзейнасці, а з-за невысокай якасці мадэліравання, несучаснасці знешняга выгляду, нязручнай носкасці. Прыйшлося доўга працаваць над перспектыўнымі мадэлямі.

У той сур'ёзнай працы ёсць неблагі вынік. Сёння якасць нашых чаравічкаў ды боцікаў на ўзроўні лепшых сусветных стандартаў. Рэкламацыі на прадукцыю звездзены амаль да мінімуму. Вось ужо 5 гадоў «Прамень» займае адно з першых месцаў сярод абутковых прадпрыемстваў СНД па якасці прадукцыі, попыту на яе.

**— А ці не будзе гэта перабольшаннем?**

— Ні ў якім разе. Наш абутак добра ідзе на айчынным, беларускім рынку. Вось прыклад. Нядаўна «Прамень» накіраваў Магілёву партыю боцікаў коштам па 5 тысяч рублёў за пару. Магілёўскі гандаль рэалізаваў іх ажно па 25-30 тысяч рублёў, і боцікі ішлі, як кажуць, на ўра.

На карысць якасці нашага абутку гаворыць і такі факт. Наша аб'яднанне адным з першых сярод абутнікаў выйшла на прамыя гандлёвыя сувязі з Захадам і Амерыкай. Першай краінай-пакупніком боцікаў «Праменя» стала Канада.

Дарэчы, частку боцікаў канадскага варыянта мы пакінулі ў Беларусі. Цэны на «канадскія» боцікі на чорным рынку перавышалі ў дзесяткі разоў першапачатковыя, тыя, па якіх рэалізавала прадпрыемства. Гэта таксама характэрны штрых.

У ліку краін-пакупнікоў прадукцыі нашага аб'яднання — Італія, Германія, Англія. «Прамень» пастаўляе на цесны еўрапейскі рынак мужчынскі і жаночы абутак, які адпавядае нават густам з прэтэнзіямі. Мы ведаем, што абы-які тавар на заходнім рынку не пройдзе. У банку заказаў, якія паступілі ад іншаземных фірм, — да 2 мільёнаў пар рознага абутку. На жаль, мы змаглі прапанаваць замежным партнёрам толькі чвэрць ад таго, што яны просяць.

На якасць не скардзяцца і беларускія пакупнікі. Паспрабуйце купіць наш абутак — ён не залежваецца.

**— І што ж уяўляе сабою сёння калектыў аб'яднання «Прамень»?**

— Наша аб'яднанне — гэта 7 тысяч чалавек, шэсць фабрык, на якіх шыецца 30 працэнтаў беларускага абутку. На жаль, як і ўсе вытворцы мы перажываем не лепшыя свае часы. З той пары, як самі пачалі клапаціцца аб сыравіне і рэалізацыі, аб'ём вытворчасці ўпаў на 4 мільёны пар абутку ў год. Калі раней мы шылі 12 мільёнаў пар, то цяпер — 8 мільёнаў. Мы страцілі, лічыце, добрыя 2 фабрыкі. Не, масавых звальненняў аб'яднанне пазбегла. Калі раней нам не хапала тысячы чалавек, з-за чаго прыходзілася працаваць нават па суботах і нядзелях, то цяпер мы адмовіліся ад працы ў выхадныя дні. Сталі выпускаць больш складаныя вырабы: раней над пэўнай мадэллю працавалі 80 чалавек, сёння — над больш сучаснай — ужо 120. Павышэнне працаёмкасці, з аднаго боку, дазволіла захаваць калектыў, з другога — нашы боты, туфлі ды чаравікі сталі больш прыгожымі. Можа дзякуючы гэтаму наш абутак сёння нельга купіць.

**— Праўду кажуць: няма ліха без дабра. А якія ж сёння галоўныя прычыны галаўнога болю дырэктара і страху страціць месца ў работнікаў аб'яднання? Мусіць, сыравіна — галоўная бяда ўсіх беларускіх вытворцаў?**

— Так, не памыляецеся. Але яна, тая бяда, была і ёсць. Тым больш, што айчынныя гарбары і вытворцы скур блізкага замежжа змяншаюць аб'ёмы вытворчасці. Змяншаецца пагалоўе буйной рагатай жывёлы, свіней. Тым не менш працуем мы без перабояў. 45-50 % сыравіны нам даюць айчынныя гарбары. Гэта Бабруйскі гарбарны камбінат, гарбарны завод у Гатава, Магілёўскі гарбарны завод. Другая палова сыравіны — расійская, якую мы набываем у абмен на наш абутак.

Тым не менш, акрамя згубленага, ёсць і здабыткі, якія прымушаюць ганарыцца нашым калектывам. У іх ліку і тое, што мы не ходзім з працягнутай рукой да ўрада за валютнымі датацыямі. За кошт свайго экспарту перайшлі на валютную самаакупнасць. І што характэрна, мы не трацім долары і маркі на нейкі шырспажыў! Мы закупляем за валюту высакаякасныя клеі, хімічныя матэрыялы для вытворчасці поліурэтану (80%), новыя тэхналогіі і запчасткі да іх (20%). Дарэчы, 10% валютнай выручкі ідзе ў дзяржаўны бюджэт.

**— Калі аб'яднанне такое валютаплацёжнае, дык ці не мог бы «Прамень» памагчы таму ж Гатаву ў набыцці высакаякаснай хіміі для вытворчасці скур, з якой там заўсёды няхватка? Абодвум было б няблага.**

— Лішніх долараў у нас няма. Тым не менш, такую прапанову я даваў дырэктару Гатаўскага завода па вытворчасці скур спадару Ханенку. Справа пакуль не зрушылася, але прапанова застаецца ў сіле.

На мой погляд, Бабруйскі гарбарны камбінат аказаўся больш прадбачлівым. У мінулым годзе на аналагічныя мэты мы далі бабруйчанам 80 тысяч долараў. Звыш плана за гэта наша аб'яднанне ад іх атрымала 1 мільён дэцыметраў цудоўнай скуры, якая пайшла на пашыў экспартнага абутку.

**— Мушу быць не зусім далікатнай, але ці не занадта скіраваны гандлёвыя інтарэсы аб'яднання «Прамень» у бок замежжа, доларавага пакупніка?**

— Ні ў якім разе. У прыватнасці, гораду Мінску мы паставілі трайную норму абутку. Але так складваюцца абставіны сённяшніх рыначных зносін, калі крэдытаванне ажыццяўляецца пад 140-150%, а праблема плацяжоў мацней гордзіева вузла, з гандлёвых арганізацый мы патрабуем 50% папярэдняй аплаты, астатнюю — на працягу 5 дзён. Мінскія магазіны ў асноўным аказаліся плацежаздольнымі, а ўвесь абутак, першапачаткова пастаўлены ў Віцебскую і Гродзенскую вобласці, прыйшлося перадаваць у іншыя месцы.

Асабліва добра ідзе зімовы асартымент. Горш з летнім: расходы ў нас круглы год стабільныя, а вось прыход — розны. Таму летам адно спадзяванне — крэдыт, зімой жа фінансавае становішча стабілізуецца.

— Я цуралася вялікіх чэргаў — лепш нешта не прыдбаць. І ўсё ж прыходзілася і пастаяць: купляла дзецям боцікі — не сядзець жа зімой дома... А цяпер вось сандалі прапалі. **Як ставіцца аб'яднанне да вытворчасці дзіцячага асартыменту?**

— Вытворчасць дзіцячага абутку заўсёды ў нас датавалася дзяржавай. Сёння ж не. Калі ж рэнтабельнасць нашага аб'яднання складае ў сярэднім 40%, то рэнтабельнасць абутку для дзяцей — 5%, а калі і даплачваць прыходзіцца. Тым не менш мы шыем і дзіцячы абутак. З ім сёння ўсё ў парадку — мужчынскі і жаночы ў большым дэфіцыце.

А што датычыцца сандалікаў, дык выпуск іх мы скарацілі (як паведамляе нам гандаль, яны дрэнна прадаюцца). І ўсё ж мы выпускаем і сандалікі. Калі ў гэтыя дні іх няма ў магазінах горада — дык гэта часова. Цэх па іх вытворчасці быў у водпуску. Заглядвайце ў крамы — сандалі хутка паступяць.

**— Якімі надзеямі сёння жыве аб'яднанне «Прамень»? Якія перспектывы яго развіцця?**

— Мяркуем вярнуцца да ранейшых аб'ёмаў вытворчасці, але з новым узроўнем якасці абутку. Рэалізаваць сваю надзею намераны праз супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі. Намі, Бабруйскім гарбарным камбінатам і прэзідэнтам германскай фірмы «Сан Манга» спадаром Клінгам арганізавана сумеснае прадпрыемства. Яно ўяўляе сабою два вытворчыя патокі. На адным будзе выпускацца мужчынскі абутак на экспарт. На другім — мужчынскі і жаночы для рэалізацыі па Беларусі і СНД. Прадпрыемства мае намер працаваць на сыравіне, якую будзе пастаўляць Бабруйск звыш усіх заключаных раней дамоўленасцей.

Вядзём перамовы і з Турцыяй аб стварэнні СП па пашыву спартыўнага абутку. Працаваць намераны часткова на сваім абсталяванні, часткова закупім у іх. За туркамі — камплектуючыя, пашыў — за СП. З новага года мяркуем выпускаць да 4 тысяч пар у дзень. Гэта нямала.

Вось так мы жывём, плануем наша далейшае існаванне. І, лічу, ганарыцца ёсць чым. Мы выстаялі, змаглі заваяваць сімпатыі як айчынных пакупнікоў, так і пераборлівы заходні рынак.

— Дзякуй за гутарку.



**НА ЗДЫМКАХ:**

*Па шляху да поспеху, засланаму часцей калючкамі, чым ружамі, аб'яднанне «Прамень» крочыць вось ужо 6 год на чале з генеральным дырэктарам Вячаславам Браніслававічам ВЕРНІКОЎСКІМ.*

*На канвееры не падрэмлеш.*

*Вось так, як усміхаецца, лёгка і ўпэўнена працуе адна з лепшых нарыхтоўшчыц верху абутку Людміла Аляксандраўна КУСЦІКАВА.*

*У дэманстрацыйнай зале, дзе сабраны новыя ўзоры абутку, нават вочы разбягаюцца. Дзіцячыя боцікі і іншую прадукцыю вам паказвае інжынер вытворчага аддзела Ванда Іванаўна ЗАЙЦАВА.*

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

РЭСПУБЛІКА

## ШТО ВЫГАДНА?

Калі б нават кожная дзесятая гаспадарка рэспублікі займалася вырошчваннем рапсу на такім узроўні, як калектыўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства «Астрамечава» Брэсцкага раёна, то вострая праблема алею была б вырашана поўнасцю.

Брэстаўчане гэту алейную расліну, уборка якой у гаспадарцы завершана, вырошчвалі на 420 гектарах. І хоць у папярэднія гады ўраджай насення быў больш важкім, але і сёлета на круг атрымана па 17,5 цэнтнера зерня. Як лічыць галоўны аграном Іван Бурда, пры ўраджайнасці 20 цэнтнераў кожны гектар рапсу здольны даць 720 кілаграмаў алею, блізкага па якасці да аліўкавага. Да таго ж, застаецца больш чым тона шроту, які ўтрымлівае да 30 працэнтаў бялку, збалансаванага па амінакіслотах, і ў жывёлагадоўлі замяніць любыя канцэнтраты.

## УСПАМІН ПРА СЕРП І МОЛАТ

Сярпамі і косамі ўбіраюць каля 400 гектараў збожжавых земляробы калгаса «Дружба народаў» Пінскага раёна. З-за паводкі на многія палі гаспадаркі нельга вывесці ўборачную тэхніку.

Такую карціну можна назіраць сёння і ў некаторых іншых гаспадарках раёна, бо тут затоплена да трэці збожжавых, 60 працэнтаў бульбяных палеткаў, палавіна пасеваў кукурузы і цукровых буракоў. Вада сыходзіць вельмі марудна, і страты ўраджаю будуць велізарнымі, нягледзячы на спробы працаваць дзедаўскімі метадамі.

## ЛІЧЫЛЬНІКІ Ў ПАШАНЕ

У бок адсунулі грашова-касавыя апараты столінскія прадаўцы, замяніўшы іх звычайнымі бухгалтарскімі лічыльнікамі. Прычына: апараты, маўляў, хутка псуюцца, і іх ніхто не ўмее рамантаваць. Але ў радавых пакупнікоў наконт гэтага крыху іншая думка. Калі на апараце кожны мог пракантраляваць кошт пакупкі, то на лічыльніках — паспрабуй, правер... Ёсць і яшчэ адзін немалаважны момант: цяпер і падатковыя інспектары, як ні стараюцца высветліць аб'ёмы рэалізацыі і прыбытку, зрабіць гэта з вялікай дакладнасцю ніяк не могуць.

## КЛЮЧ ЗМЯНІЎ ГАСПАДАРА

Па звестках, атрыманых карэспандэнтам БелаПАН з кампетэнтных крыніц, былы камандуючы Беларускай ваеннай акругай Валерый Кастэнка прызначаны камандуючым войскамі супрацьпаветранай абароны рэспублікі. У адпаведнай пастанове Савета Міністраў Беларусі змяшчаецца таксама рашэнне аб звальненні ў запас раней займаўшага гэту пасаду Міхаіла Мажукіна.

## ЯДЗЕРНАЯ ЗБРОЯ: ДНІ ЗЛІЧАНЫ?

Канчатковы вывад ядзернай зброі з Рэспублікі Беларусь на тэрыторыю Расійскай Федэрацыі можа завяршыцца ўжо ў 1996 годзе. Аб гэтым заявіў карэспандэнту БелаПАН міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі. Праект адпаведнага пагаднення ўжо падрыхтаваны для падпісання на ўзроўні кіраўнікоў урадаў. Падпісанне адбудзецца, магчыма, у верасні 1993 года. Па звестках БелаПАН, на сённяшні дзень на тэрыторыі Беларусі размешчаны 72 стратэгічныя боегалоўкі. Абслугоўваюцца яны войскамі, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Расіі.

## НЕ ЗЛОЎЛЕНЫ — НЕ ХАБАРНІК

Самымі крымінагеннымі ў рэспубліцы лічацца структуры міністэрстваў сельскай гаспадаркі і харчавання, гандлю, транспарту. Ільвіная доля расследаваных спраў па хабарах належыць менавіта гэтым ведамствам. Усяго толькі па дзве хабарныя плямы леглі на мундзіры Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Дзяржкамітэта па знешнеэканамічных сувязях і Мытнага камітэта. Па адным разе запляміліся ў міністэрствах фінансаў, прамысловасці і будаўнічых матэрыялаў, адукацыі. У той жа час зіхацяць беллю халаты ў сферы аховы здароўя — ніводнага хабару не зафіксавана. Зрэшты, у МУС лічаць, што злоўжыванні ёсць і тут, але выкрыццё вядзецца недастаткова актыўна. А можа быць, адсутнасць хабару звязана з узроўнем медыцынскага абслугоўвання?

ВОПРОС ИЗ КОНВЕРТА

# НЕ БЕСПОКОЙТЕСЬ. ЕСТЬ ТОВАРЫ И ДЛЯ ДЕТЕЙ

**«Давно ходили разговоры об открытии на улице Немига в Минске магазина «Детский мир». И вот недавно я узнал, что на том месте открылся супермаркет, торгующий только за валюту. Неужели нельзя было найти ему другое место».**

**Владимир Зданович.**

Должны успокоить нашего читателя: на улице Немига открылся обычный универмаг. И торгуют в нем в основном за рубли. Хотя в главном читатель прав — по дизайну торговых залов, по возможности выбора товаров торговый дом «На Немиге» больше походит на западный супермаркет, нежели на доморощенный универсам.

Что же касается «Детского мира», то его открытие было признано городскими властями не слишком своевременным. Не очень уж большой ассортимент детской одежды выпускается сейчас на Беларуси. И существующие торговые площади не всегда есть чем заполнять... Кроме того, в составе торгового дома «На Немиге» есть магазин по улице Кошевого, где можно приобрести и детскую одежду. Да и в новом универмаге тоже существует отдел детских товаров.

# ГОТОВЬТЕ КОШЕЛЬКИ, АКЦИОНЕРЫ «ЭЛТИКА»!

**С конца 1992 года минчане приняли самое активное участие в подписке на акции АО «Элтик», штаб-квартира которого находится в Витебске. В прессе, на телевидении прошумел ряд сообщений о крахе некоторых российских акционерных обществ. Вот и акционеры «Элтика» забеспокоились. Звонят в редакцию. Шлют письма. Вот что написала минчанка А.М.Назаренко:**

**«Уважаемая редакция!**

**Вы — последняя инстанция. Дело в том, что я хочу узнать об акционерном обществе «Элтик». В декабре 1992 года подписалась на акции этого общества, и в конце марта они обещали выдать эти акции. Уже август, а о них ничего не слышно. Телефон в Минске не отвечает. Нет ответа и на письма, которые я выслала в Витебск. Я думаю, что в таком положении я оказалась не одна. Пусть что-то сообщат через вашу газету своим акционерам, а именно: свои координаты, телефоны, планы».**

**Вот что сообщает А.М.Назаренко и другим акционерам АО «Элтик» директор фирмы «Элтик М» — официального дистрибьютера АО «Элтик» в Минске, Минской области и части России — Александр Владимирович ШАХНЮК:**

— Инвестиционно-исследовательская компания «Финэк», ранее представляющая АО «Элтик», прекратила свои представительские полномочия в Минске. Они полностью переданы нашей фирме «Элтик М».

Спешим сообщить читателям «Добрага вечара», что обмен временных свидетельств на акции АО «Элтик» на собственно акции произойдет с конца сентября по октябрь текущего года. В настоящее время акции получены и проходят регистрацию. Кстати, наши акционеры были предупреждены о нецелесообразности спешного изготовления акций. Исходя из этого, чтобы избежать больших финансовых потерь, акции были отпечатаны именно в такие сроки. Хочу напомнить, что временные свидетельства на акции являются таким же официальным документом, как и сами акции.

Дивиденды своим акционерам «Элтик» намеревается выплатить по итогам работы за 1993 год. Судя по тому, что стоимость фондов «Элтика» ощутимо возросла с начала года и, судя по прогнозам, до его конца возрастет в несколько раз, стоимость акций АО «Элтик» также возрастет в несколько раз. Значит, дивиденды составят немалую сумму, какую — подсчитаем к началу 1994 года.

По всем интересующим вопросам акционеров АО «Элтик» просим звонить в нашу фирму «Элтик М» по телефону: 690-525.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

# БЫЦЬ АКЦЫЯНЕРАМ КАРЫСНА, КАЛІ... АКЦЫІ ЗАСТРАХАВАНЫ

Шырокі выбар месцаў, дзе зберажэнні беларусаў маглі б быць не толькі застрахаванымі ад інфляцыі, але і прымножыліся, парадзіў цяперашні «інфляцыйны» час. Вялікая частка нашых суайчыннікаў, якая паставіла перад сабой пытанне — куды ж укласці грошы і з дзяцінства ўсвядоміўшая ісціну аб высакароднай справе — рызыцы, паспяшалася аддаць набытыя зберажэнні структурам з «гордай» назвай — акцыянерныя таварыствы. Аднак, як аказалася, не ўсім, хто паддаўся спакусе рызыкнуць, прыйшлося адзначыць гэту падзею шампанскім — для многіх спроба зберагчы нажытае закончылася горкімі слязамі, як, напрыклад, атрымалася з укладчыкамі акцыянернага таварыства «Народная грамада», што распалася.

«Выратавальны круг» суайчыннікам, якія пажадалі стаць акцыянерамі розных структур, вырашыла кінуць страхавое акцыянернае таварыства «ДДД ІНСТРАХ», якое з нядаўняга часу адным з першых у рэспубліцы адкрыла новы від паслуг — страхаванне каштоўных папер.

- Страціць грошы ў цяперашняй сітуацыі — не што іншае, як няшчасны выпадак, — сказаў генеральны дырэктар «ДДД ІНСТРАХ» Сяргей Чыліевіч. — Таму задача нашай кампаніі — засцерагчы грамадзян ад любой неапраўданай рызыкі. Такім чынам, акцыянеры, набываючы акцыі або аблігацыі, з гэтага часу маюць магчымасць застрахаваць іх. Па ўмовах дагавора, страхавым выпадкам з'яўляецца зніжэнне вартасці каштоўных папер ніжэй чым на 85 працэнтаў ад наміналу і неатрыманне мінімальнага дывідэнду, указанага ў дагаворы страхавання, але не менш чым 25 працэнтаў. На жаль, часта людзі, якія пажадалі ўкласці грошы ў акцыі, не здольны граматна ўсё падлічыць і «клююць» на тыя камерцыйныя структуры, якія змаглі стварыць сабе больш прывабны імідж. У той жа час першапачаткова трэба бачыць не знешнюю абалонку, а сутнасць, якая заключаецца ў тым, ці з'яўляецца акцыя гарантаванай, надзейнай і прыбытковай. Каб зрабіць правільны выбар — неабходна кансультацыя, якую акцыянеры таксама могуць атрымаць у нашай кампаніі. Акрамя таго, з мэтай забяспечыць кліенту страхоўку ад непрадбачанага выпадку, які можа закрануць і нашу фірму, мы праводзім перастрахаванне — гэта значыць дзелім рызыку з іншай структурай, якая займаецца страхаваннем. У выніку акцыі кліента аказваюцца застрахаванымі двойчы.

- Апрача простых грамадзян, хто яшчэ мае магчымасць карыстацца вашай страхоўкай?

- У першую чаргу, гэта самі акцыянерныя таварыствы, якія, зразумела, хочуць клапаціцца аб сваіх укладчыках і праводзіць граматную эмісійную палітыку, а таксама ўсе дылерскія і брокерскія канторы, якія працуюць на фондавай біржы і пазабіржавым рынку, дзе, як вядома, і прадаюцца акцыі. Дарэчы, яшчэ адзін «фронт» нашай работы звязаны са страхаваннем усёй эмісіі каштоўных папер прадпрыемстваў, якія акцыяніруюцца. Прычым, страхуюцца акцыі незалежна ад таго, хто ў далейшым стане іх уладальнікам.

Што ж, здаецца, разам з адмоўнымі эмоцыямі, што падарыла нестабільная эканоміка, у нашым жыцці паяўляюцца прыкметы цывілізаванага грамадства. У іх ліку і канкрэтны клопат аб акцыянерах.

Кацярына ВЫСОЦКАЯ,
БЕЛІНФАРМ.

МОЛОДЕЖНЫЙ МЕРИДИАН

# КАЖДОМУ ОВОЩУ — СВОЙ СТУДЕНТ

Елена КАГАЛОВСКАЯ.

***Ах, лето, лето...***

***Время, когда все экзамены и сессии уже сданы, и, кажется, имеется полное право оглянуться на окружающий тебя мир, выбраться отдохнуть на природу или подзаработать деньжат.***

***Да вот проблема — где сейчас возьмешь такие деньги на отдых? А об устройстве на работу часто приходится только мечтать.***

Вот и тычутся молодые, как слепые котята, а между тем давно уже существует в Минске «Служба занятости молодежи и студентов». А если быть точным, в прошлом году отпраздновала она свое 30-летие. Правда, раньше это был штаб студенческих отрядов. Но все течет, все меняется.

Итак, если ты молод, работоспособен, специальности не имеешь, то дорога тебе одна — на сельхозработы. Собираются студенческие отряды (человек 20-40) и выезжают, например, в Приднестровье. За месяц работы можешь пополнить карман тысяч на пятьдесят.

Мало? Не отчаивайся. Имеешь строительную специальность — в Карелии или Тюмени, скажем, месяца за полтора-два вполне можешь заработать 100-200 тысяч. Видно, работа эта студентам по душе, т.к. летом обычно работают подобным образом тысяч восемь человек.

Есть еще варианты. Если ты обладаешь высокой квалификацией, можешь подработать по контракту от 3 до 6 месяцев за рубежом. Например, в Польше или Чехии. Подобным образом в этом году работали 120 человек.

Не забывает «Служба занятости» и о школьниках. Для них организуются летние лагеря труда и отдыха. Однако радоваться особо не нужно. Возможность посетить этот лагерь или пожить «по обмену» в Польше откроется в том случае, если школа сотрудничает со «Службой занятости молодежи и студентов». В противном случае, извините.

Есть еще и международные лагеря добровольного труда.

Может создаться впечатление, что в «Службе занятости» предпочитают работать с массами, отвергая индивидуалов. «Это не совсем так, — рассказывает ее руководитель Николай Мятликов. — Конечно, если ты приходишь один, толком не зная, что нужно, то перспективы у тебя невелики — либо банк данных, либо сельхозработы. Но бывает и такое: приходит человек и сообщает: «У нас группа, организуйте, пожалуйста, нам поездку туда-то и туда-то».

И «Служба», если может, организует. Короче говоря, если, дорогой друг, у тебя одна цель — подработать летом, можешь не беспокоиться, работу тебе найдут. Вот если ты хочешь устроиться по специальности, да еще на продолжительное время, тут сложнее.

А в общем-то ситуация сейчас не на высоте. Во времена «застоя», которые все так активно ругали, условия для устройства на работу студентов были более приемлемыми.

Например, существовало льготное налогообложение по приему студентов на работу. Сейчас оно отменено, и организациям невыгодно брать подобную молодежь. Для примера. Раньше, в 1985 или 1986 годах, летом в студенческих отрядах работало около 30 тыс. человек. Сейчас эта цифра не превышает 10 тысяч.

И все же, несмотря на все трудности, «Служба занятости» продолжает функционировать. Теперь стараются расширить перечень не только сезонных работ, но и возможности привлечения молодых к вечерней работе. По 2, 4 или 6 часов в сутки или по выходным.

И, кажется, это удается.

По крайней мере, число заявок за последний год явно увеличилось.

Есть, конечно, и свои проблемы. Но в основном они технические. Это связано и с инфляцией. Когда в стране неустойчивое экономическое положение, о чем может идти речь?

**По пыльному тротуару шагает мальчишка. Сейчас это ребенок. Но когда он вырастет, однажды ему надоест выпрашивать карманные деньги у родителей и захочется сводить любимую девушку в кино на свои «кровные». И тогда в один прекрасный день он окажется перед зданием по ул. Карла Маркса, 40, где находится «Служба занятости молодежи и студентов», которая уже за это лето помогла найти работу 10 тыс. студентам.**

